## Памяць: Імгненьні й Час

**З фотаархіва © ІАР.**



*• Магілёў. Люты 1990 года. Савецкая плошча. Шматтысячны антыкамуністычны мітынг, арганізаваны БНФ.*

**ПРА ТОЕ, ШТО ХВАЛЮЕ**



*«ТМ» распачынае гэтую рубрыку з мэтаю пазнаёміць чытачоў з меркаваньнямі і думкамі выбітных людзей нашае краіны, якія ня маюць магчымасьці праз дзяржаўныя сродкі інфармацыі даводзіць да грамадзтва свае погляды і прапановы. Іхныя ўчынкі й намеры скажаюцца, даходзяць да людзей у «пашкоджаным» афіцыйнай прапагандай выглядзе. Гэта несправядліва й непрыстойна.*

*Падчас Кангрэсу дэмакратычных сілаў рэдактар прапанаваў Юрасю Хадыку ўдзел у рубрыцы. Хутка ў адказ на прапанову прафэсар даслаў ліст, які рэдакцыя палічыла досыць зьмястоўным, каб адчыніць ім новую рубрыку.*

**Менск, 1 лютага 1999 г.**

**Паважаны спадар Суднік!**

**Прабачаюся, што быў ня ў стане падчас КДС напісаць для Вас 5-7 радкоў пра тое, што хвалюе. Тады, на Кангрэсе, хвалявала ці будзем мы ў стане дасягнуць так неабходнага зараз адзінства ў змаганьні з дыктатурай. Зараз – ці здолеем перадолець усе цяжкасьці і перашкоды і правесьці прэзыдэнцкую выбарчую кампанію. Лёс даў Беларусі шанец пазбавіцца дыктатуры негвалтоўным шляхам.**

**Хай-жа цяжкасьці, што чакаюць сапраўдных сыноў і дачок Беларусі, толькі памнажаюць іх сілы.**

**З намі Бог і праўда!**

# Не хадзіце ў бібліятэкі

**ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА**

**Тое, што ў наш час хадзіць па бібліятэках ёсьць дастаткова небясьпечнай справай, спаўна адчуў лідэр магілёўскага моладзевага хрысьціянска-сацыяльнага саюзу Алесь Буракоў. Зрэшты, па сваёй сутнасьці гэтая гісторыя ёсьць дастаткова камічнай, але, тым ня менш, яна ў пэўнай ступені яскрава адлюстроўвае, якімі мэтадамі і якіх злачынцаў адлоўліваюць руплівыя й пільныя магілёўскія міліцыянты.**

**Толькі ступіўшы на ганак бібліятэкі, малады інтэлігент Алесь Буракоў быў затрыманы супрацоўнікамі праваахоўных органаў.**

*– Алесь, ці фацэтна сябе адчуваць у якасьці злачынцы, выходзячы зь бібліятэкі?*

– Натуралёва. Калі я выйшаў зь бібліятэкі, першая думка была, што гэта сапраўды мае палітычны кантэкст, таму што нашая арганізацыя афіцыйна заявіла, што ўхваляе ініцыятыву Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня па правядзеньні сёлета прэзыдэнцкіх выбараў. Яны падыйшлі, запыталіся дакумэнты. Я, пасьля пэўных досьведных справаў, заўсёды маю пашпарт пры сабе. На мой погляд, гэтая акалічнасьць зьдзівіла міліцыянтаў. Яны забралі мой пашпарт і без аніякіх тлумачэньняў прапанавалі прайсьці ў пастарунак. Мы адыйшлі літаральна 100 мэтраў і, як тое дзіва: у патрэбны час і ў патрэбным месцы бачу Валадара Цурпанава, сябра грамадзкага праваабарончага цэнтру. Тут у мяне ўжо амаль гістэрыка распачалася ад сьмеху, таму што на твары Цурпанава было пачуцьцё разгубленасьці й зьдзіўленьня. Ён падыйшоў, і я распавёў, што міліцыянты паводзілі сябе прыстойна, я больш-менш імі задаволены, вось толькі пашпарт забралі й цягнуць у пастарунак без аніякага тлумачэньня. Валадар рушыў побач.

*– Міліцыянты цябе канваіравалі?*

– Канвой быў даволі ўмоўны, бо мы ішлі наперадзе, а «канваіры» за два-тры крокі ззаду. Калі мы зайшлі ў пастарунак, міліцыянты пачалі займацца сваёй справай, то бок нічога не рабіць – цёгацца з кабінэту ў кабінэт пад выглядам высьвятленьня мае асобы. Я бачу, што людзі абсалютна нічога не высьвятляюць, на што й зьвярнуў увагу. Тады мне патлумачылі, што недзе нехта кагосьці абрабаваў і, нібыта, падобны да мяне па прыкметах. Хаця было відавочна, што злачынцу так не вадзілі б па горадзе й не размаўлялі б зь ім фактычна ні пра што.

*– Алесь, што было потым? Цябе абшукалі, склалі пратакол?*

– Не. Аніякага вобыску, аніякага пратакола. Я мусіў чакаць. Нарэшце яны выклікалі дзяжурную машыну, якая й прыбыла праз хвіліну-другую. Мяне зьбіраліся даставіць у РАУС. Мы выйшлі з пастарунку і да нас ад машыны падыйшоў, здаецца, старшына. За крокі два да нас ён угледзеўся ў Валадара і запытаўся: «Мы ўжо недзе сустракаліся?» На гэта Валадар спакойна адказаў: «Мы з вамі бачымся рэгулярна». Пачуўшы беларускую мову, у міліцыянта яўна сапсаваўся настрой. Ён, відаць, перадумаў забіраць мяне і, кінуўшы на хаду «я зараз пазваню», скіраваўся ў пастарунак. Выйшаў адтуль праз хвіліну й прамовіў да маіх канваіраў: «Аддайце яму пашпарт – каго трэба ўжо затрымалі».

*– І цябе проста так адпусьцілі?*



– Не. Сяржант вярнуў мне пашпарт і, што дзіўна, прабачыўся. Прынамсі, ён па шляху ў пастарунак казаў, што калі высьветліцца, што я ня «той», у мяне папросяць прабачэньня. Я мяркую, што ён разьлічваў, што гэта будзе рабіць хтосьці іншы.

Натуральна, што выпадак зь лідэрам маладых хрысьціянскіх дэмакратаў Магілёву Алесем Бураковым ня можа ня выклікаць усьмешкі. Але тут трэба адзначыць, што ён ёсьць абазнаным у падобных працэдурах. Алесь распавёў мне, што падчас ягонага знаходжаньня ў пастарунку там быў яшчэ адзін малады чалавек прыстойнага выгляду, уся віна якога палягала, відаць, у тым, што на ім былі апранутыя скураныя нагавіцы. Міліцыянты цягам 20-ці хвілінаў задавалі яму адное й тое-ж пытаньне: «Чаму ты носіш скураныя нагавіцы? Ты што, рокэр?» Хлопец спрабаваў давесьці, што гэта ягоная ўласная справа. Але прызвычаенасьць да ўніформы ды заплытанасьць мазгоў праз адсутнасьць неабходнасьці думаць самастойна выклікаюць нянавісьць да ўсіх, хто пачуваецца вольным чалавекам. Але, дзякуй Богу, гэта тычыцца далёка ня ўсіх, хто сёньня носіць пагоны.

**Алесь ДАЙНЕКА**

### Камэнтар праваабаронцы

*Сытуацыя, у якой апынуўся Алесь Буракоў, даволі тыповая. Сапраўды, міліцыянтам можа не спадабацца вашая апратка, альбо выгляд, ваш позірк. Гэта і можа стацца падставай вашага затрыманьня. Не заўсёды яно праходзіць так лагодна й прыстойна, як у вышэйзгаданым выпадку. Тыя, хто станавіўся ахвяраю незаконнага затрыманьня, могуць распавесьці пра мэтады, якімі карыстаюцца міліцыянты.*

*Да прыкладу магу прывесьці зусім «сьвежы». На стадыёне «Спартак» працуе ў якасьці памочніка гандляроў малады чалавек. Паслужлівы, хуткі, бездакорны. Невядома чаму да яго прычапілася ахова рынку. Гандляры падыйшлі высьветліць: у чым справа. Тыя выклікалі міліцыю. Як распавялі відавочцы, ахоўнікі правапарадку заехалі на машыне аж да адміністрацыйнага корпуса стадыёна. У бронекамізэльках, з аўтаматамі, яны схапілі «небясьпечнага злачынцу», начапілі кайданкі й гвалтам, з дапамогаю ног і дубінак, заштурхалі яго ў машыну.*

*– За што? – патлумачыць гэта дэлегацыі гандляроў ніхто не захацеў.*

*Магілёўскі праваабарончы цэнтар пачынае назапашваньне заяваў жыхароў Магілёва.*

*Мы зьвяртаемся да магілёўцаў:*

*– калі Вы сталіся ахвяраю незаконнага затрыманьня альбо арышту;*

*– калі Вашую годнасьць прынізіў дзяржаўны чыноўнік;*

*– калі Вы сталіся ахвяраю перасьледу за свае перакананьні;*

*– калі Вам адмовілі ў праве на атрыманьне ці распаўсюд інфармацыі;*

*– калі Вы лічыце, што парушана якое, з гарантаваных* ***Канстытуцыяй,*** *правоў і Вы ня ведаеце што рабіць –*

***ЗЬВЯРТАЙЦЕСЯ*** *ў Магілёўскі праваабарончы цэнтар (МПЦ). Свой пісьмовы зварот (заяву з выкладзенай сутнасьцю парушэньня правоў, дакумэнты па справе альбо іх копіі) Вы можаце накіраваць на адрэсу:*

***Дырэктару МПЦ, зав. Гогаля, 13-28, 212011, г.Магілёў.***

**Валадар ЦУРПАНАЎ,**
**сябра Праўленьня МПЦ**

